# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№32 (314) Нядзеля, 5 ліпеня 1956 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 10


## Гэта не паўтарэньне НЭП-у

На тэму новага крэмлёўскага курсу ў нутранай і вонкавай палітыцы высказваюцца на Захадзе найбольш розныя, часамі супрацьлеглыя прыпушчэньні, здагадкі й спадзяваньні. І гэтаму няма дзіва, калі ўзяць на ўвагу факт, што пасьля XX зьезду камуністычнай партыі Савецкага Саюзу няма бадай тыдня, каб «калектыўнае кіраўніцтва» ня выкінула якогась новага рэвэляцыйнага нумару ў сваёй праграме злагаджэньня курсу, у імкненьні пайсьці быццам напярэймы інтарэсам працоўных, у дэманстрацыі мірнага суіснаваньня з капіталістычным Захадам. Адным словам выглядае, што пасьля сталінскай зімы зь лютымі маразамі наступіла веснавая сонечная адліга.

Калі глядзець на выпадкі, што разыйгрываюцца сяньня ў савецкай імпэрыі, павярхоўна й бяскрытычна, калі не паддаваць іх грунтоўнай аналізе і ня шукаць іхных запраўдных прычынаў і мэтаў, дык узапраўды можа выдацца, што Савецкі Саюз хутка эвалюцыянуе ад сыстэмы дэспатызму, тэрору й нялюдзкага вызыску да ўстанаўленьня некаторых вольнасьцяў, грамадзкай справядлівасьці й фактычнага палепшаньня жыцьцёвых умоваў насельніцтва, а ў замежнай палітыцы — да трывалае коэгзыстэнцыі й міру. На нашую думку, гэта якраз і маюць на мэце крэмлёўскія ўладары, каб заходнія народы й кіраўнікі заходніх дзяржаваў шчыра паверылі ў добрыя намеры «калектыўнага кіраўніцтва» ды, у сувязі з гэтым, разьброіліся псыхалягічна й прытупілі сваю насьцярожанасьць перад савецкай загрозай.

Выходным пунктам сяньняшняй крэмлёўскай адлігі ёсьць дыскрымінацыя Сталіна і культу ягонае асобы. На месца адкінутага й асуджанага сталінізму на найвышэйшы п'едэстал узносіцца ленінізм. У залежнасьці ад гэтага павароту да ленінізму й адбываюцца цяперашнія зьмены як у нутранай, гэтак і ў вонкавай палітыцы Савецкага Саюзу.
Але ці гэтыя зьмены ўзапраўды істотныя, каб можна было гаварыць аб новым палітычным курсе? Бязумоўна не! Трэба тут узяць на ўвагу тое, што Сталін фактычна быў верным пасьлядоўнікам Леніна й прадаўжальнікам ягонае палітыкі. Розьніца між ленінізмам і сталінізмам палягае вылучна ў мэтадах і тактыцы савецкае палітыкі, але ейныя мэты былі тыя самыя. Пры гэтым, і гэтыя тактычныя розьніцы між ленінізмам і сталінізмам былі выкліканыя ня прынцыповымі разыходжаньнямі між абодвымі дыктатарамі, але гістарычнымі ўмовамі й вымаганьнямі часу, у якім яны дзеілі. Гэтак, прыкладам, пэрыяд НЭП-у, што прыйшоў на зьмену ваеннаму камунізму і ўзапраўды быў тады дабрадзействам для працоўных, быў выкліканы няўхільнай канечнасьцю ратаваньня бальшавіцкае сыстэмы, якая, ня будучы яшчэ ўмацаванай, апынулася перад загрозай няўхільнага развалу.

Ленінскі НЭП быў толькі часовай перадышкай, чаго не затойваў і сам Ленін. Але калі прыйшлі жорсткія сталінскія часы зь індустрыялізацыяй. калектывізацыяй ды крывавымі чысткамі, дык у савецкага насельніцтва ўзапраўды стварыўся міт аб шчасьлівай эпосе Леніна й ленінізму. Тут ня трэба забывацца, што калі-б Ленін дажыў што найменш да 1930 году, дык напэўна зьліквідаваў-бы нэпаўскую перадышку і рабіў-бы тое самае, што і Сталін. І наадварот, калі-б у дваццатых гадох ужо ня было Леніна, а савецкай імпэрыяй кіраваў Сталін, дык ён таксама, у сілу тагачаснай эканамічнай і палітычнай слабасьці савецкае сыстэмы, быў-бы змушаны пайсьці на часовую перадышку ды стварыць той-жа НЭП або нешта да яго падобнае.

Сяньняшніх тактычных ходаў Крэмля ня толькі, аднак, нельга ўтажсамліваць з НЭП-ам, але навет і прыраўноўваць да яго. Між адным і другім зьявішчам можна толькі шукаць некаторых аналёгіяў што да іхных прычынаў і мэтаў, але ня што да іхнага зьместу. НЭП у часе свайго існаваньня ўзапраўды даў вялікія палёгкі насельніцтву і высока падняў яго жыцьцёвы стандарт. Нерасейскія народы мелі магчымасьць у той час шырака разьвіць сваё нацыянальнае жыцьцё. Тымчасам раўналежна зь сяньняшнімі палёгкамі, пры чым мала істотнымі і пераважна фікцыйнымі, на плечы працоўных кладуцца новыя цяжары, часамі горшыя, чымся пры сталінізьме.

Гэтак, з аднаго боку, цяпер скасаваны закон аб забароне зьмяняць месца працы, скасаваныя кары за г. зв. прагулы, скарочаны на дзьве гадзіны працоўны тыдзень, жанчыны ня будуць змушаныя да цяжкіх работ і г. д. Але, з другога боку, уведзеныя і новыя цяжары, нясумерна большыя за гэтыя палёгкі. Гэтак на аснове пастановы ЦК КПСС і Савету міністраў СССР з 9 сакавіка сёлета зьменшаныя прысялібныя ўчасткі калгасьнікаў, павялічаныя выпрацоўкі на працадзень, а абавязкавы мінімум працадзён мае ўстанаўлівацца ў залежнасьці ад «патрэбнасьці працоўных затратаў у грамадзкай гаспадарцы калгасьнікаў», як аб гэтым паведаміла «Праўда» за 10. 3. 1956 г.

Новыя цяжары зваліліся ня толькі на калгасьнікаў. Яны не абмінулі й работнікаў. Гэтак, між іншым, работнікі, якія трымаюць дамашнюю жывёлу, павінны цяпер плаціць за яе вялізарныя падаткі і здаваць мясанарыхтоўкі, чаго ня было раней. Ведама, што прысялібныя ўчасткі калгасьнікаў і трыманьне дамашняй жывёлы работнікамі — гэта адзіная дошка ратунку ад галоднага вэгэтаваньня ўсіх працоўных, асабліва тых, што маюць вялікія сем'і.

Іншы прыклад. Пасьля XX зьезду партыі савецкая прэса шмат піша аб зьменах у нацыянальнай палітыцы на карысьць нерасейскіх народаў. Побач з «буржуазным нацыяналізмам», пачалі цяпер высоўваць, як і за Леніна, і «вялікадзяржаўны расейскі шавінізм», як галоўную небясьпеку, а азначэньне «рускі патрыятызм» замянілі цяпер азначэньнем «савецкі патрыятызм». Але гэтыя чыста фармальныя палёгкі ніякае істотнае зьмены ў нацыянальнай палітыцы Саветаў ня робяць. Прадаўжаецца й далей тая-ж самая русыфікацыя, што й дагэтуль, а «вялікі рускі народ» ня перастаў быць «самай перадавой і вядучай нацыяй» сярод народаў Савецкага Саюзу, на якую ўсе апошнія павінны арыентавацца. Дык і ў гэтай галіне новы крэмлёўскі курс ня можа быць утажсамліваны зь ленінскім НЭП-ам.

Фікцыйнасьць новага савецкага курсу яшчэ больш відавочная ў вонкавай палітыцы. З аднаго боку, «калектыўнае кіраўніцтва» зь нябывалым пафасам дэклямуе аб міры, коэгзыстэнцыі й супрацоўніцтве з капіталістычным сьветам, але з другога боку пасьлядоўна імкнецца да зьнішчэньня дэмакратычнай сыстэмы й апанаваньня цэлага сьвету, і ў гэтым кірунку, дзякуючы больш умелай, хітрай і гібкай палітыцы, чымся гэта рабіў Сталін, мае не малыя посьпехі. Ужо ў пэрыяд сяньняшняй адлігі Масква замацавала свае ўплывы сярод народаў Паўдзённай Азіі, пралезла на Сярэдні й Блізкі Ўсход, а апошні вялікі сукцэс яе дыпляматыі — гэта нацыяналізацыя эгіпскім урадам Суэскага каналу, які для Захаду мае жыцьцёвае эканамічнае й стратэгічнае значэньне. Цяперашняе ўзмоцненае імкненьне камуністых да тварэньня супольных народных фронтаў із сацыялістычнымі і іншымі работніцкімі партыямі заходніх краінаў мае на мэце ня што іншае, як перамогу камунізму мірным «парляманцкім шляхам». Ды, напасьледак, усім аблудным савецкім лёзунгам аб міры войстра супярэчыць іхны тэмп збраеньняў, які і ў 6-ай пяцігодцы займае галоўнае месца ў савецкай індустрыі і вялікім цяжарам кладзецца на плечы працоўных.

Падобныя прыклады можна падаваць у бесканечнасьць. Але і гэтых хопіць, каб пабачыць, што цяперашняя крэмлёўская адліга ў ніякім выпадку ня можа быць утажсамліваная і ў сваёй істоце навет прыраўноўваная да ленінскага НЭП-у. Таксама ёсьць бясспрэчным фактам, што асуджэньне сталінізму й паварот да ленінізму ні ў чым сытуацыі не мяняе, бо ленінізм розьніўся ад сталінізму толькі ў тактыцы й мэтадах, але не ў сваіх мэтах. Мэты былі аднолькавыя.

Сяньняшні палітычны курс Крэмля можна інтэрпрэтаваць толькі, як тактычнае злагаджэньне курсу, праяўлянае або ў больш мяккай фразэалёгіі й лёзунгах, або ў дробных і мала істотных уступках, выкліканых войстрымі патрэбамі нутранае й вонкавае палітыкі. Калі-ж многія на Захадзе хочаць бачыць у цяперашняй крэмлёўскай адлізе паўтарэньне ленінскага НЭП-у, дык іх хутка можа спаткаць вельмі горкае расчараваньне.

**Л. К.**

## Новая трагэдыя

Камуністычнае кіраўніцтва ў пошуках працоўнае сілы робіць вялікія намаганьні, каб як мага больш накіраваць людзей на гэтак званыя будоўлі камунізму. Яшчэ ў 1954 г. была разгорнутая вялікая прапаганда аб перасяленьні зь Беларусі на лесараспрацоўкі й на цаліну. Начальнік перасяленьня БССР Сямёнаў тады паведамляў, што «ў гэтым годзе праводзіцца плянавае перасяленьне зь Беларусі ў шматзямельныя калгасы, якія асвойваюць цаліну й залежныя землі».

Тэмпы перасяленьня зь цягам часу ўзмацніліся. Масква залічыла Беларусь да краю, дзе ёсьць шмат лішняе працоўнае сілы. Няма патрэбы даводзіць хлусьлівасьці гэтых неабаснаваных цьверджаньняў. Наша бацькаўшчына перанесла на сваёй тэрыторыі жудасны цяжар дьвюх сусьветных войнаў. Толькі ў вапошнюю вайну загінула каля двух мільёнаў беларускага насельніцтва. А колькі сотняў тысячаў зьнішчана Беларусаў у часы страшэнных чыстак ад г. зв. ненадзейнага элемэнту ў прымежнай Беларусі!

Усе гэтыя бясспрэчныя довады не бяруцца на ўвагу. Тры гады няспынна, з тэмпамі, якія ўсё ўзрастаюць, гэтыя «лішнія беларускія рукі» вывозяцца на цаліну ў няпрытульныя зімою й сьпякотныя летам стэпы Сібіру й Казахстану, у карэльскія лясы ды на поўнач, дзе капаюць золата, будуюцца шахты, электроўні, пракладваюцца па землях вечнае мерзлаты дарогі.

А ў той-жа час з прычыны недахопу працоўнае сілы ў беларускіх калгасах адбываюць прыгон пераважна жанчыны. Пад шыльдай «раўнапраўнасьці» жанчыны выконваюць цяжкія працы на хвабрыках і заводах, цягаюць цэглу, цэмант ды іншыя будаўляныя матар'ялы на будоўлях. З прычыны адсутнасьці працоўнае сілы ў калгасах сотні тысячаў гэктараў прыгоднае зямлі ляжыць аблогам, не засяваецца; сенажаці парасьлі хмызьнякамі. У гарадох савецкія газэты зьмяшчаюць аб'явы з патрабаваньнямі працоўнай сілы розных спэцыяльнасьцяў. Гэтакае запраўднае становішча.

Дзеля перасяленьня насельніцтва на Беларусі былі арганізаваныя ў гарадох і сельскіх мясцовасьцях вэрбовачныя пункты. У самым толькі Менску было адчынена пяць такіх пунктаў. Арганізацыі, што займаюцца перасяляньнем, асабліва ганяюцца за людзмі, якія ўмеюць майстраваць, ды за будаўнікамі. А гэтымі здольнасьцямі нашых суродзічаў Бог не пакрыўдзіў. Перасяленцаў спакушаюць рознымі абяцанкамі заможнага жыцьця на новых землях, добрымі ўмовамі працы. Угаворваюць здаваць жывёлу ў нарыхтоўчыя пункты, з тым, што за атрыманыя паквітаваньні перасяленцы атрымаюць для сябе жывёлу на новым месцы пасяленьня. Поруч з агульнай прапагандай партыйныя й камсамольскія арганізацыі на загад з Масквы вывозяць беларускую моладзь цэлымі эшалонамі на цаліну, у Данбас на шахты, на Далёкі Ўсход ды за палярнае кола.

Так, пад прымусам, які падхварбоўваецца хвальшывай прапагандай, савецкім патрыятызмам, сем'ямі і ў вадзіночку вывозяцца нашыя суродзічы з бацькаўшчыны ды расьцярушваюцца па далёкіх ускраінах «краіны сацыялізму».

Што чакае перасяленцаў? Няпрывыкласьць і няспрыяльнасьць кліматычных умоваў, няўладжанае жыцьцё сярод чужога народу! Яшчэ ў мінулым годзе ў калгасы Бурата-Мангольскай АССР за Байкал было пераселена больш за тысячу сем'яў з розных частак СССР. І да гэтага году, як паведамляе «Сельское хозяйство», больш за 383 сям'і ня маюць памешканьняў, а 267 семя'ў ня маюць каровы. Пакутуюць перасяленцы і ў саўгасах на цаліне. Вось збожжавы саўгас Ануйскі, Алтайскага краю: пяты аддзел яго разьмешчаны на тэрыторыі былой гаспадаркі «Заготжывёла», вагончыкі й палаткі работнікаў стаяць на паўмэтравым напластаваньні гною. «Жыцьцё там, дзе шмат гадоў утрымлівалася жывёла, ня мае прыемнасьці», — адзначае тая-ж газэта. У гэтым саўгасе адсутнічае мэдычнае абслугоўваньне. У ваддзелах няма навет звычайных аптэчак. У саўгасе няма ніякіх майстэрняў. Каб лаправіць вопратку ці абутак, трэба йсьці за 20—30 кілямэтраў у раён. Работнікі харчуюцца пераважна ў сухамятку, бо саўгас ня мае магчымасьцяў арганізаваць цёплай стравы. Перасяленцы зь перабоямі забясьпечваюцца печаным хлебам, бо собскае пякарні ў саўгасе няма.

А вось іншы саўгас — «Ілійскі» Казахстанскай ССР. Як паведамляе «Сельское хозяйство» з 13-га ліпеня гг., «работнікам восьмага аддзелу саўгасу не падвозіцца вада, ня варыцца гарачая страва ды не даецца нічога, апрача чорнага нязвычайна дрэннага хлеба. Адміністрацыя саўгасу на ўсе скаргі работнікаў не зьвяртае ніякае ўвагі». У гэтым-жа саўгасе абыякава аднесьліся і да тых «патрыётаў», якія прыехалі ў саўгас, каб дапамагчы сабраць ураджай. «Не гаворачы аб дрэнным харчаваньні, нястачы вады, на нас ніхто не зварочвае ўвагі», — скардзіцца адна студэнтка з Алма-Аты. Рэдка ў саўгас дастаўляюцца газэты. Як агульнае зьявішча, перасяленцы пазбаўленыя магчымасьцяў набыць самыя патрэбныя рэчы, бо тавары ў саўгасы рэдка даходзяць.

У такіх нялюдзкіх умовах перасяленцаў змушаюць працаваць і выраблЯць высокія нормы. Адарваныя ад родных ніваў і ад свайго народу, нашыя суродзічы сталі вязьнямі дзікіх сібірскіх стэпаў. Жудасная катарга ў лягерах прымусовае працы, якая папаўняецца «ворагамі народу», пашыраецца. Мадэрная савецкая катарга называецца «дабраахвотным» перасяленьнем на цаліну, на новабудоўлі камунізму

**В. Б.**

## Чаму бальшавікі супраць ЗША

У сучаснай бальшавіцкай палітычнай прапагандзе рэдка можна спаткаць выступленьне або прэсавы ці радыёвы артыкул, дзе-б у самай войстрай форме не нападалася-б на гэтак званы «амэрыканскі імпэрыялізм». Бальшавіцкая прапаганда ўсімі сіламі раздувае міт «амэрыканскага імпэрыялізму» і прадстаўляе яго ў самых страшных хварбах. Пры гэтым бальшавікі маюць на ўвазе ня столькі імпэрыялізм тэрытарыяльны, колькі гэтак званы амэрыканскі «эканамічны імпэрыялізм», які паводля ленінскіх тэорыяў мусіць абавязкава зьявіцца на пэўнай стадыі разьвіцьця капіталізму.

Гэтая бальшавіцкая прапагандовая акцыя ставіць канкрэтныя мэты. Папершае, ствараючы міт «амэрыканскага імпэрыялізму», Крэмль хоча адцягнуць увагу народаў ад імпэрыялістычнай натуры савецкай дзяржавы, ад факту васальскай залежнасьці ад маскоўскага цэнтру ўсяго савецкага блёку і ад вісячай над вольнымі краінамі загрозы маскоўскага імпэрыялізму.

Зразумела, таксама, чаму бальшавікі найбольш інтэнсыўна прышываюць імпэрыялізм Амэрыцы. Гэта не таму, што паводля Леніна — **найбольш капіталістычная дзяржава павінна быць адначасна і найбольш імпэрыялістычнай**, але таму, што **ЗША, з сваім лібэральна-капіталістычным ладам, сталіся галоўнай астояй свабоды і дэмакратыі і асноўным бар'ерам супраць ваеннай і палітычнай экспансіі дыктатарскага і тыранічнага бальшавіцкага камунізму.** Бальшавікі прышываюць імпэрыялізм Амэрыцы не таму, што паводля Леніна — найбольш капіталістычная дзяржава, у сілу імкненьня манапалістых да нажывы, павінна панявольваць або панявольвае эканамічна слабыя народы, але таму, што, **дзякуючы нясупыннаму нутраному гаспадарчаму развою, ЗША здольныя даваць і даюць найбольшую эканамічную і тэхнічную дапамогу ўсім патрабуючым краінам.** А гэтага ня могуць цярпець бальшавікі. Яны ня могуць пагадзіцца з тым, што дзякуючы эканамічнай дапамозе Злучаных Штатаў шматлікія краіны сьвету пасьпяхова разьвіваюць сваю гаспадарку і ўздымаюць жыцьцёвы ўзровень свайго насельніцтва, нашто ніяк ня можа ўзьбіцца бальшавіцкая псэўдасацыялістычная гаспадарка. Бальшавікі ня могуць, напрыклад, зьмірыцца з тым, што фінансавая дапамога ЗША Заходняй Эўропе дазволіла гэтым краінам хутка ўзьняцца з руінаў другой сусьветнай вайны, забясьпечыць нябывалы дасюль матарыяльны дабрабыт іх грамадзян і спрычынілася да такога ўмацаваньня эканомікі гэтых народаў, што яны здольныя сяньня ізноў свабодна канкураваць із самой Амэрыкай.

Адносіны ЗША ў эканамічных пытаньнях зь іншымі народамі, якія характарызуюцца жаданьнем Амэрыкі дапамагчы эканамічна слабаразьвітым народам, каб прывесьці іх да самастойнага гаспадарчага развою, разьбівае тэзы сучаснага крэмлёўскага бога-Леніна аб завойстрываньні нероўнамернасьцяў у эканамічным разьвіцьці г. зв. капіталістычных дзяржаў, якія, паводля таго-ж Леніна, маюць прыводзіць да войнаў, паняволеньня эканамічна слабых і ўзбуджэньня ды разьвіцьця імпэрыялізму гаспадарча сільных народаў. Прыклад Амэрыкі даказвае адваротнае. Шчырае эканамічнае супрацоўніцтва і ўзаемная дапамога паміж народамі, якая ў вольным сьвеце найбольш стымулюецца і падтрымоўваецца ЗША, няспынна вядзе да ўсё большага ўзьняцьця дабрабыту ўсіх вольных народаў, стварае ўсё большы кантраст з галодным і нявольніцкім існаваньнем у камуністычных краінах і даказвае абсурднасьць нялюдзкіх высілкаў, да якіх дыктатары змушаюць паняволеныя народы. Стымулюючая роля ЗША ў эканамічным поступе вольных народаў і зьяўляецца прычынаю таго, што крамлёўскія аматары сусьветнага дыктатарства сьціроўваюць іх прапагандовае паклёпніцтва галоўным чынам на ЗША. Каб разьбіць дружнае палітычнае і эканамічнае супрацоўніцтва паміж вольнымі народамі, якое разьвіваецца з мэтай захаваньня свабоды, дэмакратыі і матарыяльнага поступу, бальшавікі сваёй аблуднай прапагандай хочуць выклікаць недавер да аднаго з галоўных партнэраў заходняй салідарнасьці — ЗША, прышываючы гэтай краіне імпэрыялізм.

Аднак вольныя народы добра ведаюць, хто іх саюзьнік, а хто вораг. Аб гэтым ведаюць і народы СССР.

**А. Залескі**

# Святло й цені Грамады

**Ад Рэдакцыі:** Артыкул гэты выкліча напэўна дыскусію аб запраўднай ролі Грамады — дыскусію, якую Рэдакцыя лічыць вельмі патрэбнай і карыснай.

*

Прайшло чвэрць веку з таго мамэнту, як перастала дзеіць Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада. Шматлікія із старэйшых, што перажывалі гэты мамэнт і ўсё бачылі, ужо ня жывуць, а іншыя дзеля нясьведамасьці малодшых, пачынаюць хвальшаваць гістарычныя факты, выкарыстоўваючы назоў Грамады дзеля падтрыманьня свайго аўтарытэту. Дзеля гэтага лічу патрэбным даць аб'ектыўны нарыс дзейнасьці Грамады й схарактарызаваць тыя абставіны, як у Польшчы, так і ў Саветах, што паклікалі да жыцьця такую арганізацыю.

Агульная тагачасная сытуацыя ў Польшчы была даволі няпэўная. Маладой дзяржавай патрасалі шматлікія партыі, урады зьмяняліся адзін за другім, ажно 13-га траўня 1926 г. маршал Пілсудскі выступіў збройна супраць прэзыдэнта й праўнага ўраду. Пасьля двухдзённай барацьбы ў Варшаве перамог Пілсудскі й завёў манапартыйную дыктатуру. Гэтыя падзеі зрабілі заграніцай вельмі няпрыхільную апінію для Польшчы. Шмат хто думаў, што аджыве даўнейшая польская анархія, што супраць першага дыктатара паўстане другі й пойдуць закалоты паўдзёна-амэрыканскага тыпу.

Саветы, дзеючы праз менскіх бальшавікоў тыпу Галадзеда пастанавілі прыгатавацца да большай гульні з Польшчай. Паўстала Сялянска-Работніцкая Грамада ў Заходняй Беларусі. Гэтая арганізацыя, дзякуючы сваёй радыкальнай сацыяльнай праграме, агітацыйнай падтрымцы з боку Камуністычнае Партыі Заходняе Беларусі і беларускіх радыкалаў, а таксама грашовай субсыдыі, пачала разрастацца зь нябывалым імпэтам ды за паўгоду дасягнула да 100 тысяч сяброў. Старшынём Грамады, як вядома, быў Бр. Тарашкевіч, а ягонымі блізкімі супрацоўнікамі — Мятла, Рак-Міхайлоўскі, Валошын і Галавач. Усе яны былі прыхільнікамі камунізму. Савецкую Беларусь яны прызнавалі за сваю «вольную» дзяржаву і варожа выступалі супраць беларускіх арганізацыяў і адзінак, якія стаялі на грунце Акту 25 Сакавіка. Новапаўсталая арганізацыя мела на мэце прылучэньне Заходняе Беларусі да БССР. Беларускія сяляне верылі ў абяцаны праграмай надзел іх зямлёю, сацыялізацыю заводаў і хвабрыкаў, тым больш, што жыцьцё ў Польшчы ня было лёгкае, а тагачасныя савецкія пяцідворкі мала чым нагадвалі сяньняшнія калгасы. Адыгрывала тут таксама сваю ролю традыцыйная цяга на ўсход нашае праваслаўнае большасьці. Шмат хто з тагачаснага беларускага актыву не ўцямліваў запраўднага аблічча камунізму, а таксама не разумеў маскоўскага духу, які пачынаў душыць у той мамэнт усе нацыянальныя мяншыні. Шмат хто з нашай інтэлігенцыі й паўінтэлігенцыі ішоў праз чырвоную мяжу ў «рай», пакідаючы родную хату.

Праўда, што сэнтымэнты, традыцыя й агітацыя маюць свой уплыў, аднак ад галоўных палітычных дзеячоў Грамады, паслоў сойму, вымагалася-б глыбейшая знаёмасьць камуністычнай дактрыны й савецкай рэчаіснасьці ды цьвярозы беларускі патрыятызм. Гэтага якраз ня мелі вярхі Грамады, і таму так трагічна скончылі самі ды пацягнулі за сабой тысячныя ахвяры ў Польшчы й Саветах.

Хто-ж належаў да Грамады? Належаў да яе перадусім камуністычны актыў на чале з успомненымі правадырамі, розныя радыкалісты й нездаволеныя ды нацыянальна маласьведамыя масы беларускіх сялянаў і работнікаў; супрацоўнічалі з Грамадой нат людзі далёкія ад камунізму, а навет ведамыя беларускія нацыяналістыя. Да такіх належалі б. міністар Замежных Справаў А. Луцкевіч, галоўны публіцысты воргану Грамады «Беларускі Голас», сьвятар Коўш — галоўны бухгальтар Беларускага Банку, які праз свае рукі прапушчаў даляры, высыланыя з Штокгольмскага Банку для Грамады ды інш. Р. Астроўскі быў галоўным скарбнікам Грамады. Ён, як дырэктар, зьяўляецца адказным за ўвядзеньне камуністычных ячэяк у Віленскую Беларускую Гімназію. Усе гэтыя людзі ды шмат іншых «тэхнічных» працаўнікоў былі апраўданыя польскім Акруговым Судом, тады як галоўныя ідэялёгі Грамады былі засуджаныя за камуністычную прапаганду і за імкненьне адарваць Заходнюю Беларусь ад Польшчы на 8 гадоў турмы.

Беларускія нізы, уцягнутыя ў Грамаду, чакалі перадусім надзелу зямлі, палёгкі ад падаткаў, доступу беларускае мовы ўва ўрады. Яны слухаць не хацелі аб усім тым, чым дыхае камунізм. Паміма гэтага, пад уплывам вярхоў і актыўных камуністых некаторыя вёскі ў Наваградчыне й на Палесьсі з чырвонымі сьцягамі сьвяткавалі 1-га траўня, ладзячы таксама пракамуністычныя акадэміі ды актыўна выступаючы супраць беларускіх нацыяналістых-незалежнікаў.

У канцы лістапада 1927 г., польскія ўлады пры дапамозе паліцыі й войска начамі правялі масавыя арышты сярод грамадаўцаў і фармальна зачынілі гэтую арганізацыю. Пры гэтым былі знойдзеныя тысячы паасобнікаў розных камуністычных брашураў. Тысячы сьведамых і нясьведамых Беларусаў пайшло ў турмы на чале з успомненай верхавінай. Сьледзтва цягнулася каля году. Правадыры, як мы ўжо казалі, падаставалі па 8 гадоў турмы, а меншыя дзеячы па 3 і 1,5 году, тэхнічныя сілы й спадарожнікі былі апраўданыя. Зь іх некаторыя, як прыкладам Акінчыц, Астроўскі, Сарока ды інш., зь месца прыступілі да цеснага супрацоўніцтва з Палякамі й пачалі выдаваць свой ворган «Беларускі Звон»; іншыя сядзелі бязьдзейна, а некаторыя прыступалі да супрацоўніцтва з беларускімі незалежнікамі. У канцы гэтай драмы скамунізаваная грамадаўская верхавіна дабравольна зажадала выехаць у краіну «сацыялістычнага шчасьця», каб там атрымаць з рук «старэйшага маскоўскага брата» адпаведную ўзнагароду. З усіх перайшоўшых, пасьля прапаганднага прывітаньня, толькі адзін Тарашкевіч «удастоіўся чэсьці» быць галавой калгасу пад Масквой, дзе ён быў яшчэ жывы (пісаў калгасныя спасьцярогі) да 1941 году. Гэта быў дацэнт філялёгіі Петраградзкага ўнівэрсытэту і старшыня стотысячнай Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады! Іншыя грамадаўскія дзеячы былі выкарыстаныя як фізычная сіла для пабудовы «сацыялістычнай дзяржавы». Пралетарская рука камуністычнага бяспраўя ня толькі адабрала ад б. грамадаўцаў волю, свабоду думак, але імкнулася адабраць ад іх чэсьць і добрае ймя. Камуністычная партыя Заходняй Беларусі выдала ў 1933 г. адмысловую брашуру ў якой яна «сурова асудзіла шпіёнства, зраду, сабатаж, патраты грамадзкіх грошаў і г. д.» праз былых правадыроў Грамады.

Чаму-ж так сталася з Грамадаўцамі?

1. Таму, што беларускія камуністыя непатрэбныя Маскве, яны зьяўляюцца патанцыяльным зародкам сэпаратызму, што супярэчыць маскоўскім лятуценьням аб падбоі ўсяго сьвету. Да гэтага трэба дадаць, што грамадаўскія дзеячы былі запраўды дрэннымі камуністымі, бо з нацыянальным ухілам.

2. Грамада, як масавая арганізацыя, была пратрэбная бальшавіком толькі ў Польшчы, каб падрыхтаваць дарогу ваюючаму камунізму, але яна была-б абсалютна шкоднай для іх у падсавецкай Беларусі.

Хто-ж належаў да Грамады? Ня глядзячы на тое, што спачатку вельмі трудна было навонкі зарыентавацца аб мэтах і заданьнях Грамады, бо навет польскія ўлады бачылі сьпярша ў гэтай арганізацыі толькі добры «клін» у дасюль адзіным беларускім фронце, то ўсё-ж-такі бальшыня беларускага актыву не пайшла за Грамадой. Усе беларускія незалежнікі сканцэнтраваліся ў Беларускім Нацыянальным Камітэце, зь якога выбыла цяпер ягонае левае крыло. На працягу даўгіх гадоў, на чале Камітэту стаяў сумленны беларускі патрыёт праф. В. Багдановіч, замучаны пасьля бальшавікамі ў першых днях кастрычніка 1939 году. Да Камітэту належалі: найстарэйшая беларуская палітычна-грамадзкая арганізацыя «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя»; новаўтвораная «Беларуская Сялянская Партыя»; «Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры»; беларуская друкарня й кнігарня «Пагоня» ды інш. Да Грамады не належалі былыя ўдзельнікі Слуцкага Паўстаньня. Зь незалежнікамі таксама трымаў цесную сувязь Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні — гэтая запраўдная кузьня беларускае інтэлігенцыі, хоць у ягоныя шэрагі часта стараліся пранікнуць як камуністыя, так і палянафілы.

Прыгадваецца такі выпадак: 25 сакавіка 1931 году сябры Беларускага Студэнцкага Саюзу сабраліся ў сваім памешканьні пры Віленскай вуліцы № 7, каб урачыста ўшанаваць вялікі Акт. Яшчэ ня ўсе зыйшліся, як на прысутных пасыпалася з вуліцы каменьне, палкі й сярчаны квас у бутэльках. У гэты мамэнт група камсамольцаў з былым вучнем Беларускае Віленскае гімназіі Міскам уварвалася ў залю й пачала біць прысутных. Удзельнікі акадэміі справіліся зь імі хутка. Пасьля надыйшло больш сяброў (усіх было блізу сотні), але ўжо было па ўсім.

Нападаючымі камсамольцамі кіравалі Я. Саковіч, што пасьля зразумеў сваю памылку і аддаў жыцьцё за бацькаўшчыну, ды пасол «Змаганьня» Гаўрылік. Пасьля акадэміі, усе студэнты грамадой пайшлі й павыбівалі вокны ў пракамуністычным клюбе «Змаганьне».

Дадатнія бакі Грамады:

1. Грамада, як масавая беларуская арганізацыя, узварухнула шырокія масы беларускага грамадзтва да палітычнага й сацыяльнага думаньня.

2. Грамада выдавала вялікую газэту на 8 бачын, два разы ў тыдзень, якой тыраж сягаў да 75 тысяч. Гэтым пашыралася культура беларускага друкаванага слова.

3. Ідэя лучнасьці Заходняй Беларусі з Усходняй ёсьць, зразумела, сама ў сабе добрай і годнай прапаганды.

4. Уся канцылярыя вялася пабеларуску. На ўсіх кіраўнічых становішчах былі Беларусы — гэтак выраблялiся кадры.

5. Навонкі, Грамада прадэманстравала перад усім сьветам, што Беларусы ў Польшчы існуюць, што яны незадаволеныя із свайго нацыянальнага й сацыяльнага палажэньня і дамагаюцца палепшаньня свайго культурнага й матарыяльнага быту.

Адмоўныя бакі Грамады:

1. Грамада ня прызнавала акту 25 Сакавіка й ворганаў БНР.

2. Грамадаўскія правадыры тайна й адкрыта пашыралі камуністычную ідэялёгію сярод беларускага насельніцтва.

3. Грамадаўскія дзеячы разьбілі адзіны беларускі фронт у Польшчы, рэпрэзэнтаваны Беларускім Нацыянальным Камітэтам. Навет на выбары грамадаўцы йшлі асобна, а ня з блёкам Нацыянальных Мяншыняў.

**(Заканчэньне на 3-яй бачыне)**

# Невясёлая статыстыка

2-га жніўня было апублікаванае паведамленьня Цэнтральнай Статыстычнай Управы пры Савеце міністраў СССР аб выкананьні дзяржаўнага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі СССР за першае паўгодзьдзе 1956-га г.

Хаця нармальна статыстычныя справаздачы павінны абмежавацца да сухіх лікаў і не павінна там быць месца на панэгірыкі і фантазіі, успомненае паведамленьне густа пераплятаецца пахваламі для партыі і ўраду за іхныя вялізарныя клопаты і турботы аб шчасьці савецкіх людзей. Бачна, што сама статыстыка мала пераконвае і захапляе гэтага чалавека, дык трэба яе ўпрыгожваць красачкамі і бліскучымі фінціклюшкамі прапагандовае фразэалёгіі.

У вадрозьненьне ад папярэдніх гадоў, дзе заўсёды падаваліся мутныя лікі ў працэнтах, якія невядома было ад чаго аблічваць, сёлетняя статыстычная справаздача апэруе канкрэтнымі цыфрамі. Гэта нам дае магчымасьць аблічыць, **што** ў выніку выкананьня паўгадовага пляну атрымаў грамадзянін Савецкага Саюзу. Калі-б навет прыняць гэту статыстыку за праўдзівую, то і так яна ня можа пераканаць савецкага грамадзяніна аб гэнай расхваленай дбаласьці партыі і ўраду.

Зьвернемся да канкрэтных лікаў гэнай статыстыкі.

Напрыклад, было выпрадукавана 129 мільёнаў мэтраў ваўнянае тканіны. Гэта дае каля 60 цэнтымэтраў на душу насельніцтва.

Ня шмат лепш із льнянай тканінай, якой выпрадукавана ўсяго 189 мільёнаў мэтраў. Панчох і шкарпэтак зроблена 402 мільёны пар; розных гатункаў бялізны — 216 мільёнаў штук. Ледзьледзь па аднэй штуцы на душу. Зроблена 156 мільёнаў пар абутку. Інакш кажучы, менш чымся пара на душу. А нармальна чалавек мае пару ног...

Ня лепш зь іншымі матарыяламі і прыладамі штодзённага ўжытку, а тымбольш блага з прадуктамі харчаваньня. Напрыклад, міністэрства прамысловасьці мясных і малочных прадуктаў выпусьціла 560 тысяч тон гэтае прадукцыі. Каўбас зроблена 320 тысяч тон. Рыбных вырабаў пушчана на рынак 1,4 мільёнаў тон. Маргарыны 225 тысяч тон. Шампанскага, якім пацяшаў сваё грамадзтва Мікаян — 13 мільёнаў бутэляк. Папярос 102 мільярды штук.

Калі гэта ўсё пералічым на душу насельніцтва, дык выпадае вельмі-ж мізэрная колькасьць на паўгоду, або лепш, на 184 дні. Маючы гэтыя лікі і ведаючы, што насельніцтва Савецкага Саюзу перавышае 200 мільёнаў чалавек, ня цяжка аблічыць, колькі гэтага ўсяго выпадае на душу насельніцтва. За тое без параўнаньня шмат цяжэй гэтым пад'есьці...

Калі мы параўнаем гэтую мізэрную колькасьць тавараў штодзённага ўжытку з прадукцыяй гэтага ўсяго ў заходніх краінах, гэныя славутыя «клопаты партыі і ўраду аб дабрабыце грамадзтва» набіраюць значэньня горкай насьмешкі, а то і проста зьдзеку. Хаця грамадзтва Савецкага Саюзу ня мае змогі параўнаньня, затое гэтыя недахопы балюча адчувае і напэўна адпаведна ацэньвае гэтыя клопаты.

Як выглядае з успомненай статыстычнай справаздачы, найбольш павялічаецца вытворчасьць зьвязаная зь цяжкой індустрыяй. Так, напрыклад, моцна ўзрасла прадукцыя рафінаванай медзі, волава, нікелю, цынку і таму падобных мэталяў, цесна зьвязаных з ваеннай вытворчасьцяй.

Інакш кажучы, коштам далейшага недаяданьня свайго грамадзтва і ягонай галечы маскоўскія сатрапы павялічаюць сваю мілітарную магутнасьць, а свае народы кормяць толькі абяцанкамі. Затое Хрушчоў валочачыся па сьвеце, дзеля прапаганды, абяцае Гіндусам, Бірманцам, Афганістанцам ды Эгіпцянам, што ён зь імі падзеліцца «апошнім куском хлеба». Сапраўды «апошнім» і то зрабаваным маскоўскімі мілітарыстымі ад падбітых народаў...

Варта было-б, каб розныя заходнія апартуністыя ды іншыя староньнікі «суіснаваньня», якія шукаюць у СССР нейкіх «адлігаў», «дэмакратызацыяў», «лібэралізацыяў» і наагул — чаго там няма і быць ня можа — перастудыявалі добра гэтыя статыстычныя дадзеныя і задумаліся над імі. Можна-б тады да іхнай заспанай сьведамасьці дайшла тайніца ўсіх сусьветных закалотаў, дывэрсійных актаў і апошняй суэскай аплявухі. Апошняй, якая, праўдападобна, не апошняя...

**А. С.**

8)

# На нівах і ўзвышшах беларускага слова

**ТАМ**

Там кроў ліецца, там за волю
Байцы на вісельні ідуць,
А вы, вы, мучаны найболей,
Сьпіцё, хоць вас даўно там ждуць.

Скажэце мне, а за каго йны
Пайшлі на сьмерць, пайшлі войной?
Хто ёсьць на сьвеце так дастойны,
Што трэ ахвяры аж такой?

Га, з вас ніхто таго й ня знае,
Што йдуць за тых на бітваў жар,
Хто труд свой потам палівае,
Над кім стаіць з нагайкай цар.

Што йдуць за тых на катні зьдзек,
Хто сваёй працай горкай, цяжкай
Сьвет корміць — сам галодны век,
Адзеты лапцямі, сярмяжкай.

Што йдуць, каб бедным і галодным
Дзянькі сыцейшы зацьвілі,
Зрабіць нявольніка свабодным,
Даць безьзямельнаму зямлі.

Дык вось, на сьмерць ісьці іх змусіў
Найнешчасьліўшы чалавек.
А вы, адродкі Белай Русі,
Сьпіцё, як быццам кат засек!

До спаць! Паўстаньце грамадою
І йдзеце ім там памагаць,
Паўстаньце крэпасьцяй такою,
Каб вораг вас ня мог зламаць.

Паўстаньце, покуль цар звыродны
Крыві ўсяе ня выссаў з вас!
Паўстаньце! Край ваш стогне родны,
Заве збаўляць, як зваў няраз.

Паўстаньце, гляньце, Божа мілы,
Свабода, сонца вас заве!
Крыху адвагі й дружнай сілы,
А шчасьце вечна зацьвіце.

Зганеце сон, асьлепны сон,
Збудзеце дух прыбіты свой,
І ўдарце ў згоды гучны звон,
І зьберцеся ўсёй грамадой!

І йдзеце, йдзеце вы туды,
Дзе ўжо даўно кроў льлюць за вас,
Нясеце веліч сьлёз, бяды,
Нясеце крыўды на паказ!

Хай кроў пальлецца дзень, другі
Варожым трупам на падсьціл,
Хай у няволі ланцугі
Спадуць ад грому вашых сіл!

Купалаў «Мужык» 1905 г. — запраўдны гранічны знак пачатку й нашага Купалы й цэлага нашага літаратурнага XX в. У самога Купалы ён адзначае перанос увагі з пляну чыста асабістае «мае долі» («Мая доля» 1904 г.) у плян «мужыкоўства». У літаратуры XX в. адзначаецца ім канцэнтрацыя ўвагі на гэтым «мужыкоўсьцьве», канцэнтравана сынтэзаваным тут із спадчыны XIX в., пачынаючы ад «Вясна гола» й канчаючы на Багушэвічу, ды завойстраным у кірунку пазытыўнага ўжо выражэньня ідэалу чалавечае годнасьці «мужыка» («чалавек, хоць мужык»), што ў далейшым стаецца найпершым мамэнтам асноўнае ідэі «нашаніўства». Спадкаемства Багушэвіча наагул тут падчыркненае — простая сувязь Купалавага «Мужыка» з Багушэвічавым «Дурны мужык, як варона» ціраз адзначаная крытыкаю, дый сама прост кідаецца ў вочы. Далейшыя па «Мужыку» Купалавы вершы адзначаюцца ўводам нацыянальнае характарыстыкі народу ў «беларускай» тэрміналёгіі («беларускі мужык», «адродкі Белай Русі»), самым Багушэвічам уводжанай толькі яшчэ ў публіцыстычна-рэтарычных празаічных прадмовах, а ня ў самых вершаваных тэкстах; публіцыстычная рэторыка наагул выбіваецца на першы плян, рэтарычны гэрой — «клікальнік» засталучае лірычнага гэроя — «наракальніка». Апошняе йдзець у цеснай сувязі з завойстраньнем перанятага ад XIX канцавечча сэнсу эманцыпацыі ў сэнс рэвалюцыі, асабліва актуалізаваны атмасфэрай рэвалюцыйнага часу паабапал 1905 г., падзеі якога й беспасярэдня трапляюць у фокус паэтавае ўвагі (29 кастрычніка 1905 г. — «Курлоўская страляніна» ў Менску).

### АЛЁІЗА ПАШКЕВІЧАНКА (пасьлейшая «ЦЁТКА»)

Увосень 1905 г. зьяўляюцца друкам і першыя вершы новае паэткі аднае з заснавальніцаў і актывістак Беларускае Сацыялістычнае Грамады — Алёізы Пашкевічанкі, пасьлей (ад 1906 г.) больш знанае пад псэўдонімам «Цётка». Гэтак, асобнымі друкаванымі, але нелегальнымі лістоўкамі, з пазнакаю 31 кастрычніка 1905 г. кажная, зьяўляюцца вершы: «Мора (Рэвалюцыя народная)», «Пад штандарам», «Хрэст на свабоду». Усе яны выданыя ў Вільні коштамі БСГ, а адна зь іх нат коштам «Літоўскае Сацыял-Дэмакратычнае Партыі». У 1906 г. усе вершы гэтых лістовак, разам зь іншымі, датуль не друкаванымі, выходзяць зборнікам пад загалоўкам «Хрэст на свабоду» у Галіччыне (у Жоўкве, у Базыльлянаў). У тымжа 1906 г. і там-жа выходзіць і другі зборнік іншых вершаў тае-ж аўтаркі — «Скрыпка беларуская». Абодвы зборнікі — першыя зборнікі вершаў беларускага паэты XX в. у XX в. — выйшлі паралельнымі выданьнямі кірыліцаю й лацінкаю, пры чым на кірылічным выданьні аўтарам пададзены «Гаўрыла з Полацку» (псэўдонім, пасьля больш ніколі ня ўжываны Пашкевічанкаю), а на лацінічным аўтар зусім не пададзены. Кірылічнае выданьне «Скрыпкі», апрача таго, мае прадмову гэтага «Гаўрылы» й адзін верш («У дарогу»), якога няма ў выданьні лацінічным.

Ніжэй падаём найхарактэрнейшыя вершы з кажнага з гэтых зборнікаў.

**(Працяг будзе)**

# З майго падарожжа ў Эўропу

**(Працяг з папярэдніх нумароў)**

Каб зрабіць прыблізны аналіз якасьці беларускіх перадачаў, я папрасіў сэрыю скрыптаў прыблізна за адзін месяц. Сп. Запруднік з ахвотай мне іх даў. Я прастудыяваў гэтыя перадачы з наступным вынікам: у сярэднім беларускія перадачы можна падразьдзяліць на наступныя 4 часткі: 1) камэнтары да бягучых падзеяў у Савецкім Саюзе, насьвятляючыя гэтыя падзеі для жыхароў Беларусі у іх запраўдным сьвятле; 2) камэнтары на весткі зь Беларусі, падаваныя ў бальшавіцкай прэсе і радыё; 3) весткі з Захаду; 4) беларуская нацыянальная тэматыка. Гэта значыць, прыблізна адна чацьвертая частка перадачаў прысьвечана нацыянальным тэмам. Прыкладам, у прастудыяваных 28-ёх праграмах былі наступныя перадачы на беларускія тэмы: 1) 2-га сакавіка: «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі» (з нагоды выхаду ў сьвет першага зборніка твораў Францішка Багушэвіча, «Дудка Беларуская», у Кракаве 65 год таму; 2) 10-га сакавіка: «Слуцкія Змагары»; 3) 11-га сак.: паўтор перадачы з 2-га сакавіка; 4) 12-га сак.: «Другая Ўстаўная Грамата да народаў Беларусі»; 5) 15-га сак.: «Ленінізм — падстава савецкага каляніялізму» (аб гэносыдзе ў Беларусі й іншых савецкіх рэспубліках); 6) 18-га сак.: «Ля чужых берагоў» (літаратурны мантаж); 7) 19-га сак.: «Беларусы ў вольным сьвеце» (з жыцьця беларускае моладзі ў Нью Ёрку); 8) 21-га сак.: «І мы, Беларусы, маем свае парахункі»; 9) 22-га сак.: «Насільства над прынцыпам самавызначэньня» (да 35-ых угодкаў Рыскага міру); 10) 23-га сак.: «Хрушчоў ужо ня блазан» (здушэньне беларускага нацыянальнага жыцьця і ідэі 25-га Сакавіка на Беларусі); 11) 24-га сак.: «38-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі», праграма складалася з наступных частак: «На шляху да незалежнасьці», «Ён прыйдзе гэты дзень» (літаратурна-мастацкі мантаж), песьні — «Пагоня», «Падняты родны сьцяг дзяржавы», Жалобны марш, «Магутны Божа», Беларускі Нацыянальны Гымн; 12) 25-га сак.: «Забойства Францішка Аляхновіча»; 13) 27-га сак.: «Колькі лекароў мы маем у запраўднасьці» (на Беларусі адносна менш лекароў чымся ў рэшце Савецкага Саюзу — асабліва ў РСФСР).

Праграмы беларускіх перадачаў ёсьць у Галоўнай Управе БАЗА, і кажны, хто хоча зь імі пазнаёміцца, можа іх выпазычыць. Таксама кажная беларуская арганізацыя можа сама зьвярнуцца на адрыс Беларускай Сэкцыі радыя «Вызваленьне» і папрасіць стала высылаць ім праграмы беларускіх перадачаў, каб магчы гэтым пазнаёміцца з працай беларускай сэкцыі радыя ды мець больш-менш аб'ектыўнае ўяўленьне аб гэтай працы. Ад Беларускай Сэкцыі радыя «Вызваленьне» я атрымаў таксама тры перадачы-йстужкі дзеля азнаямленьня зь імі Беларусаў у Амэрыцы. Тэматыка гэтых перадачаў: «Каб жыла Бацькаўшчына» (праграма прысьвечаная 35-ым угодкам Слуцкага Паўстаньня), адмысловая праграма на 25-га Сакавіка 1956 году і літаратурны мантаж, а таксама адмысловая праграма, падрыхтаваная для Columbia Broadcasting System — аднэй з найбольшых радыёвых карпарацыяў Задзіночаных Штатаў. Кажная беларуская арганізацыя ў Амэрыцы можа атрымаць рэпрадукцыі гэтых радыяперадачаў з Галоўнай Управы БАЗА з малой аплатай за найграньне новых істужак.

Мая думка адносна радыя «Вызваленьня» наступная: маючы на ўвеце, што радыё «Вызваленьне» — гэта не беларуская, а амэрыканская ўстанова, мэтай якое зьяўляецца ў першую чаргу змаганьне супраць камунізму, цяжка спадзявацца, што больш, як 25 працэнтаў перадач можа быць прысьвечана беларускаму нацыянальнаму пытаньню. Праўда, на маю думку, першую частку — камэнтары на галоўныя падзеі ў Савецкім Саюзе, можна было-б на палавіну скараціць на карысьць беларускае нацыянальнае тэматыкі. Таксама трэба старацца палепшыць якасьць таго, што перадаецца. У нацыянальнай частцы гэтае палепшаньне мусіць ісьці ў падвышэньні больш нацыянальнага тону на тэмы дапушчаныя для перадачаў ды праз пашырэньне тэматыкі. Ад сябе хачу яшчэ раз зазначыць, што беларускае грамадзтва на эміграцыі ня мусіць забывацца, што радыё «Вызваленьне», а таксама Інстытут для Вывучэньня СССР — гэта не беларускія, але амэрыканскія ўстановы, у якіх аднак робіцца беларуская нацыянальная праца. Дзеля гэтага беларускае грамадзтва на эміграцыі мусіць падтрымоўваць працу беларускае сэкцыі радыя «Вызваленьне» і працаўнікоў Інстытуту для Вывучэньня СССР. Тое, што Амэрыканскі Камітэт ня мае ясна выракленай палітычнай плятформы, а навет вядзе нічым неапраўданую русафільскую палітыку, не зьяўляецца, бязумоўна, ягоным дадатнім бокам. Аднак Амэрыканскі Камітэт ня вымагае, каб Беларусы зракаліся сваіх нацыянальных ідэялаў. Далей важна тое, што Амэрыканскі Камітэт усё-ж не пайшоў на супрацоўніцтва із штучна створанымі й неаўтарытэтнымі беларускімі арганізацыямі, хоць зь іхняга боку былі вялікія намаганьні навязаць супрацоўніцтва з Амэрыканскім Камітэтам. Наадварот — Амэрыканскі Камітэт пайшоў на супрацоўніцтва зь беларускімі ўстановамі на эміграцыі, ведамымі із свайго прынцыповага становішча й ідэялягічнага накіраваньня. Узноў-жа, наглядаючы ўжо цяпер пэўную эвалюцыю Амэрыканцаў, мы мусім верыць, што шмат яшчэ зьменіцца на нашую карысьць. Хуткасьць, зь якой гэтая эвалюцыя будзе йсьці, шмат залежыць ад нашае зарганізаванасьці ды каардынацыі працы паміж нашай эміграцыяй ды беларускімі працаўнікамі ў установах Амэрыканскага Камітэту.

Канчаючы аб Мюнхэне, я хачу выказаць сваю падзяку Беларусам Мюнхэну за іхнюю гасьціннасьць і гатовасьць даць мне ўсе магчымыя адказы й інфармацыі, якія я хацеў ад іх мець. Мне таксама хочацца выказаць мой асабісты падзіў для іхнай так цяжкой, адказнай і небясьпечнай працы. Пры гэтым трэба падкрэсьліць, што гэтыя людзі працуюць зь вялікай матар'яльнай стратай — асабліва тыя, што ня прыехалі працаваць з Амэрыкі. Да таго маладыя беларускія працаўнікі трацяць шмат на часе, бо аддаюць сваю энэргію й гады на гэтую грамадзкую працу, закідаючы сваю прафэсыйную практыку, ня выкарыстоўваючы зусім рэальных магчымасьцяў здабыцьця далейшых навуковых ступеняў. Я гэта асабліва падкрэсьліваю, бо крытыкуючы недахопы, лічу абавязкава патрэбным даць ацэнку і пазытыўнага боку справы.

**Др. А. Вярбіцкі**

**(Працяг будзе)**

*Зь беларускага жыцьця*

## Рэфэрат праф. Ант. Адамовіча у мюнхэнскім аддзеле БІНІМ-у

У чацьвер 2 жнівеня адбылася чарговая зборка мюнхэнскага аддзелу Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва. Зборку гэтую ўшанаваў сваёй прысутнасьцяй сп. Прэзыдэнт М. Абрамчык. Прысутныя мелі прыемнасьць пачуць рэфэрат гасьця зь Нью Ёрку, усім ім добра ведамага й паважанага праф. Антона Адамовіча, які застаўся тут на колькі дзён пасьля навуковае канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР.

Праф. Адамовіч гаварыў на тэму «Юбілейны год». 1956 год зьяўляецца ў нас запраўды годам паважных юбілеяў ня толькі зь літаратурнага, але й нацыянальнага гледзішча. Сёлета збываецца 50 год ад дня заснаваньня «Нашай Долі» й «Нашай Нівы»; сёлета таксама мы адзначаем 30-годзьдзе заснаваньня Літаратурнага Задзіночаньня «Узвышша» ды 25-годзьдзе ягонае ліквідацыі.

Прэлегент спачатку адцеміў, што ў той час, як у нас ужо ўвайшло ў традыцыю урачыста адзначаць некаторыя ўгодкі палітычнага значэньня (прыкладам Дзень Незалежнасьці, Слуцкія Ўгодкі), дык літаратурных юбілеяў у нас недаацэньваюць, што вынікае зь недаацэньваньня літаратуры ў жыцьці нацыі.

Да гэтага часу няма агульнапрынятай дэфініцыі нацыі. У свой час бальшавікі (Сталін) прынялі ўжо раней ведамую тэзу, што ўмовай існаваньня нацыі зьяўляецца адзінства тэрыторыі, мовы, культуры й эканомікі. Тэзы гэтай аднак нельга апраўдаць ні практычна, ні навукова. З другога боку, мела дый мае яшчэ шмат прыхільнікаў тэорыя аб расавым адзінстве нацыі. Прэлегент станоўка адкінуў гэтую тэорыю. Ён паказаў, што калі раса (кроўнае адзінства) можа быць (і ў бальшыні выпадкаў была) паважным дзейнікам у пачатковай стадыі тварэньня нацыі, дык у ніякім выпадку нельга лічыць адзінства расы за галоўную аснову сучасных нацыяў, як нельга знайсьці цяпер чыста «расавай» нацыі.

Затым прэлегент развіў сваю тэзу. За аснову нармальнае», ці лепш — клясычнае нацыі ён лічыць **мову**, г. зн. форму выяўленьня думак. Інакш кажучы, апрычонасьць нацыі выяўляецца першым чынам у вапрычонасьці сынтаксу: кажная нацыя выказвае тыя самыя думкі парознаму.

«Моўная» нацыя ня ёсьць яшчэ поўнай: яна ня можа замацавацца бязь пісьменства, бязь літаратуры, якая мусіць адлюстроўваць апрычонасьць дадзенае нацыі. Гэткая нацыя асягае тады вышэйшую ступень — яна стаецца **«літаратурнай».** Аднак поўнае разьвіцьцё духовых асаблівасьцяў магчымае толькі тады, калі нацыя зьяўляецца **«палітычнай»** — калі яна мае сваю дзяржаўнасьць.

Спалучэньне гэтых трох атрыбутаў — моўнасьці, літаратурнасьці й палітычнасьці — і дае ў сваёй суме клясычную нацыю.

З гэтага гледзішча прэлегент коратка насьвятліў разьвіцьцё беларускае нацыі. Моўнай нацыяй былі мы ўжо ў пэрыяд самастойных княстваў. Аднак акрамя адзінага — праўда, выдатнага — літаратурнага твору — «Слова аб палку Ігараве» (беларускасьць якога для прэлегента бяссумлеўная), той пэрыяд не пакінуў нам нічога. Палажэньне мала зьмянілася і ў пэрыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мы бязумоўна былі моўнай і палітычнай нацыяй, але не літаратурнай. Мы былі **літаратурнай правінцыяй** — спачатку бізантыйскай, а пасьля заходняй. Прычынай гэтага былі об'ектыўныя абставіны — геапалітычнае палажэньне нашага народу, які ўсю сваю энэргію мусіў аддаваць на абарону палітычнае незалежнасьці.

У 1696 г. адбылося разлучэньне моўнае й палітычнае нацыі (пераход на польскую мову ўстановаў ВКЛ): хоць палітычна ВКЛ і надалей засталося самастойным, моўна яно адарвалася ад народу. Да гэтага ніколі не дайшло-б, калі-б нашы моўныя традыцыі замацаваліся ў літаратурных творах.

У 19 ст. былі спробы аднаўленьня палітычнае нацыі (К. Каліноўскі); яны заламаліся таму, што да гэтага ня было падрыхтаванага грунту.

Паводля прэлегента, нельга лічыць 19 ст. пачаткам запраўднага (сьведамага) адраджэньня беларускае літаратуры. Багушэвіч заклікаў не пакідаць беларускае мовы — «каб ня ўмерлі». Інакш кажучы, ён змагаўся толькі за захаваньне статус кво — моўнае нацыі. Нельга таксама атоесамліваць і першых гадоў «Нашай Нівы» з пачаткам запраўднага адраджэньня. Беларусы мусілі прайсьці першым чынам «паўторны курс эўрапэйскай літаратуры», як пісаў М. Багдановіч. Толькі ў 1909-10 г. г. пачалося сьведамае тварэньне літаратурнае нацыі, вогнішчам якога і сталася ад гэтага часу тая-ж «Наша Ніва», ды была ім да канца свайго йснаваньня. Гэта падрыхтавала грунт для аднаўленьня палітычнай нацыі, якое ўкаранавалася Актам 25 Сакавіка. Вонкавыя ворагі не далі замацавацца аднаўленай дзяржаве.

Пад бальшавіцкай акупацыяй, карыстаючы з тагачаснае «адлігі», перадавы нацыянальны элемэнт у літаратуры імкнуўся да вывяршэньня працэсу тварэньня літаратурнае нацыі. Гэтак паўстала Літаратурнае Задзіночаньне «Ўзвышша». За 5 гадоў існаваньня яно выявіла нязвычайную колькасьць талентаў у розных жанрах літаратуры.

На просьбу прысутных, праф. Адамовіч, як сябра «Ўзвышша» ды блізкі прыяцель бальшыні ўзвышэнцаў, паказаў на шматлікіх прыкладах, як «Узвышша» змагалася за апрычонасьць нашае літаратуры — першым чынам праз **культуру мовы** (якую, дарэчы, ня трэба блытаць із стэрыльнай чысьцінёй мовы), ды праз тварэньне новых літаратурных формаў. Гэтае змаганьне спынілі савецкія турмы, лягеры й высылкі.

Прэлегент адказаў яшчэ на шмат пытаньняў і даў пашыраныя выясьненьні да некаторых сваіх цьверджаньняў. Бальшыня выказвалася адносна першае часткі рэфэрату. Прэз. Абрамчык, прыкладам, зьвярнуў увагу, што зь гістарычнага гледзішча было-б памылковым разглядаць пададзеныя прэлегентам атрыбуты нацыі, як абавязковыя, ці навет «нармальныя» **храналягічныя этапы.** Гэткая выдатная літаратурная нацыя як Францыя сталася шмат раней палітычнай нацыяй, пакуль стацца літаратурнай. Некаторыя іншыя выказалі думку, што нельга лічыць мовы за адзіную й выключную аснову нацыі. У сваіх адказах, праф. Адамовіч пашырыў паасобныя пункты свайго рэфэрату, поўнасьцяй задавальняючы ўдзельнікаў дыскусіі.

У тым, што рэфэрат быў цікавы й арыгінальны, удзельнікі зборкі былі аднагалоснымі. Калі чытачы ня згодзяцца з гэтым, дык вінаваты тут толькі карэспандэнт. Можа выбачыць яму й прэлегент за спробу хоць збольшага перадаць ягоныя тэзы й новае насьвятленьне некаторых фактаў — тым больш, што карэспандэнт ня пэўны, ці, дзе й калі рэфэрат гэты будзе апублікаваны...

**Ул. Нямановіч**

# Аб сац. рэалізьме

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

тэрнацыянальным. Аказваецца, што тут аўтар ня вельмі азнаёмлены з савецкай рэчаіснасьцяй, бо яшчэ ня так даўно ўся савецкая прэса й літаратура трубіла аб тым, што **«наша савецкая культура, нацыянальная формай і сацыялістычная зьместам, будуецца на асновах самае багатае культуры расейскага народу».** Ніяк гэтае цьверджаньне не характарызуе той гібрыд, які звычайна паўстае на асновах шматлікіх культураў, таксама немагчыма ўявіць гібрыд культураў інтэрнацыянальнага характару, які мог-бы скласьціся за гэтыя пяць месяцаў часу, а фактычна ад XX зьезду КПСС, бо на гэтым зьезьдзе партыя спасьцерагла «некаторыя» недакладнасьці культуры сацыялістычнага рэалізму. Нам здаецца, што не. Гэты рэалізм усьцяж застаецца **расейскім рэалізмам,** чаго ня ў сілах адмовіць савецкая прапаганда сваімі абстрактнымі разважаньнямі. Што адносіцца да так званага гібрыду асобнае савецкае культуры, дык ён настолькі слабы і штучны, што аб ім няварта навет гаварыць. Ды і сам аўтар разгляданага артыкулу адкідае штучную культуру, як прыкладам культуру «буржуазных касмапалітаў», якія, лічачы аджыўшымі нацыі й нацыянальныя культуры, прыпадносяць народам так званую сьветавую культуру і культуру эўрапэйскую.

Затое ў культуры нерасейскіх народаў СССР глыбока ўпіўся расейскі сок, ад якога навет пачынаюць заражвацца і «культуртрэгеры» нацыянальных рэспублікаў. Гэтага адмовіць немагчыма. Возьмем любы твор, хай ён будзе выдадзены пасьля XX зьезду КПСС, незалежна якога аўтара, і мы на кажнай балонцы пабачым гэтага паразіта — выхваляньне расейскае культуры, уплятаньне як мага больш у тэкст расейскіх пагаворак і песьняў. А чым дыхаюць нашыя тэатры, кіно, прыдарожныя абвесткі і надпісы вуліцаў? А хай паспрабуе нерасейскі пісьменьнік апяваць у сваім творы дрыгажосьць свае краіны, свой народ і ягоную культуру, і, барані Бог, ягоную прошласьць! Для іх адзін аб'ект: або «наша социалистическая Родина», або «наш народ з дапамогай вялікага расейскага народу дабіўся таго і таго». Тым часам для Расейцаў дазволена ўсё — навет выхваляць і бацюшку цара.

Возьмем для ілюстрацыі колькі прыкладаў. Зь першага ліпеня гэтага году пачала выдавацца газэта «Советская Россия», якая мелася быць доказам таго, што і расейскі народ ня мае больш праваў за іншыя народы Савецкага Саюзу. І вось у ёй, як знак гэтае «роўнасьці», рэдактары «изволили» памясьціць пару вершаў і гімн «Советская Россия». Толькі ўжо назоў гэтага гімну выклікае пытаньні, а фактычна чаму ня «Советская Родина», як мусяць сьпяваць у другіх рэспубліках? Тэкст паясьняе: Расея зьяўляецца гордасьцяй савецкае дзяржавы, яна «свято хранит русскую славу». Камэнтары, думаем, тут не патрэбныя, наадварот, тэкст дапамагае зразумець лёс гэтага татарскага паэты, ды ці толькі татарскага, які так прыносіць дань вялікаму расейскаму народу ў сваім вершы «Русскому народу», зьмешчаным у тым самым нумары цытаванае газэты:

«Миллионы раз скажу «спасибо»,  
Потому что нет на свете слов,  
Слов таких, которые могли бы  
Выразить к тебе мою любовь...»

Проста так, як калісьці прысягалі цару падбітыя народы! Так практыкуецца там, у «дэмакратычнай дзяржаве», дзе шануецца годнасьць чалавека! А хай-бы адважыўся напісаць оду свайму народу ці краіне хоць адзін нерасейскі паэта, як гэта зрабіў расейскі паэта Ан. Сафронов і яе памясьціў у тым-жа нумары »Советской России»,калі-б замест «Любовь моя — моя Россия» падставіў «Беларусь каханая — слава мая!» Ці ня быў-бы ён асуджаны, як той украінскі паэта Сасюра за верш «Любі Украіну» у буржуазным нацыяналізьме ды і ў тым, аб чым не згадаеш, бо апяваецца абстрактная краіна і нацыя.

Як бачым, запраўдная характарыстыка «савецкага сацыялістычнага рэалізму» ня супадае з гэтай, дадзенай аўтарам разгляданага артыкулу. Аднак, у савецкай літаратуры яны ня будуць разрозьнівацца датуль, пакуль будзе існаваць «Свабодны Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў».

**П. У.**

*Куток сав. беларускае мовы*

# «Нацыянальнае» па форме

У «Літаратуры й Мастацтве» з 21-га ліпеня сёлета, пад вельмі асьцярожным загалоўкам — «Удасканальваць пераклад» — быў зьмешчаны артыкул Б. Буляка супраць заганнае практыкі **Беларускага** Тэлеграфнага Агенцтва (БЕЛТА), якое ўжо ня здольнае апраўдаць навет таго куртатага «нацыянальнае па форме»...

БЕЛТА — гэта бадай найлепшы паказьнік, паводля формы якога можна меркаваць і аб форме тае «сацыялістычнае дзяржаўнасьці» ды «сувэрэннасьці БССР, якія штодня ўгаворвае нам бальшавіцкая прапаганда.

Вось-жа Беларускае Тэлеграфнае Агенцтва не валодае беларускай мовай — гэтым мінімум нацыянальнае «формы». Аб гэтым піша Б. Буляк, падмацоўваючы свае цьверджаньні цэлым шэрагам прыкладаў.

Ад некаторага часу БЕЛТА абслугоўвае абласныя й гарадзкія газэты беларускімі перакладамі (зразумела, з расейскага) замежнае й нутрасаюзнае інфармацыі. У штаце працаўнікоў БЕЛТА няма ніводнае асобы з належнымі ведамі беларускае мовы. Рассыланыя беларускім газэтам інфармацыі адзначаюцца ня толькі страшэннай няпісьменнасьцяй, але й нястачай наагул усякае культуры. Б. Буляк піша: «Бадай самай пашыранай заганай перакладчыкаў агенцтва зьяўляецца даслоўны пераклад. Часта тут перакладаюць кажнае слова паасобку, не задумваючыся над будовай сказу».

Далей Буляк падае цэлы шэраг прыкладаў таго камплетнага няведаньня беларускае мовы й жахлівага бяскультур'я, пад якім заплесьнела адна з найгалаўнейшых «беларускіх дзяржаўных установаў. Ён інфармуе: «У ваднэй з замежных тэлеграмаў паведамлялася: „Важнымі **артыкуламі** вывазу зьяўляюцца гандлёвыя й рыбалоўныя судны". Расейскае слова „статья", якое ў дадзеным кантэксьце ўжыта ў значэньні „прадмет", перададзена ў зусім іншым значэньні. Як вядома, артыкул у беларускай мове можа азначаць або літаратурны жанр, або пэўны пункт якога-небудзь збору правіл ці законаў. Іншага значэньня гэтае слова ня мае».

І далей: «У перакладзе варонескіх калгасьнікаў... сустракаецца такі выраз: „У саўгасе "Маскоўскі" ў 1954 г. было **выраблена** (замест "атрымана") мяса па 98 цэнтнэраў на сто гэктараў сельска-гаспадарчае зямлі."»

«У інфармацыях (БЕЛТА) досыць часта сустракаем такі, з дазвалу сказаць, пераклад: „Каб прадухіліць стварыў**шыйся** тупік..." або „каксую**чыйся** вугаль", „адбыў**шыйся** абмен думкамі" і г. д.»

«Такія словы, як „изложение", „излагать", чамусьці ўва ўсіх выпадках без адрозьненьня значэньня перакладаюцца „выкладаньне". Вось што можна прачытаць у абласных газэтах: „Газэты публікуюць падрабязнае **выкладаньне** рэзалюцый" (замест „пераказ рэзалюцыі"...»

«Перакладчыкі і рэдактары БЕЛТА ўва ўсіх выпадках карыстаюцца словам „ужываць". Які гэта сэнс мае ў кантэксьце, відаць з прыкладаў: „францускія войскі сумесна з авіяцыяй **ужылі самую буйную апэрацыю** супраць паўстанцаў"; **„Ужываліся пастаянныя атакі** супраць часьцяў Патэт-Ляо"...»

«Даволі часта ў матарыялах можна сустрэць расейскія словы ў беларускім напісаньні: **поезд прасьледваў,** грамадзян **увялі** (забралі ў палон), **уйсьці** (унікнуць, ухіліцца, уцячы) і г. д.»

Б. Буляк канчае свой артыкул цьверджаньнем, што **«фактаў няправільнага перакладу паасобных слоў і выразаў можна было-б прыводзіць безьліч».**

Вось як выглядае тая мізэрная беларуская «сацыялістычная дзяржаўнасьць» у сваёй моўнай «нацыянальнай форме». У гэтай дзялянцы, як, зрэшты і ў іншых, яна сталася спрафанаванай калёніяй расейшчыны.

**З.**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**